Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 41(77) 11-17 кастрычніка 1996 года Цана 1500 руб.

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Развіццё палітычнага крызісу ў нашай рэспубліцы залежыць ад пазіцыі, што займае ў гэтым пытанні Расія. У падтрымку таго ці іншага боку канфлікту выказаліся амаль усе вядомыя расійскія палітыкі.

Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын накіраваў Аляксандру Лукашэнку спецыяльнае пасланне, дзе выказана меркаванне аб шляхах вырашэння канфлікту: "Зрабіць усё магчымае па ўхіленні рознагалоссяў з парламентам, весці з ім цярплівую, карпатлівую работу па знаходжанні кампрамісаў, пазбягаць абвастрэння сітуацыі."

Прэзідэнт Беларусі лічыць таксама прымальнымі кампрамісы адносна прапанаванага ім праекта паправак да Канстытуцыі. Канчатковы варыянт будзе разгледжаны на Усебеларускім народным сходзе і апублікаваны. Прымае кіраўнік дзяржавы і папраўкі, выказаныя больш як сотняй дэпутатаў, што стане адной з тэм яго выступлення ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета. Пасля якога, як палічвае прэзідэнт, дэпутаты адменяць сваё рашэнне аб прызначэнні рэферэндуму на 24 лістапада і перанясуць яго на 7. Па пытанні аб даце рэферэндуму прэзідэнт не збіраецца ісці на кампраміс. Размовай з ветэранамі ў сваёй рэзідэнцыі А. Лукашэнка паклаў пачатак шэрагу сустрэч з прадстаўнікамі грамадскасці з мэтай тлумачэння пазіцыі кіраўніка дзяржавы на рэферэндуме. На думку прэзідэнта, у рэспубліцы няма сур'ёзнага канфлікту паміж рознымі галінамі ўлады, а ёсць толькі спробы ўзбунтаваць грамадства.

Далейшае развіццё атрымаў інцыдэнт з пасланнікамі-прадстаўнікамі краін NATO ў нашай рэспубліцы. На чарговым брыфінгу ў МЗС Беларусі было пацверджана права пасла ў свабодна ўступаць у кантакты, абмяркоўваць любыя пытанні, якія датычацца унутрыпалітычнай сітуацыі ў нашай рэспубліцы, каб лепш разумець развіццё працэсаў у грамадстве. Але гэта так і не зняло напружанасць, што ўзнікла пасля абвінавачванняў, выказаных прэзідэнтам у адрас дыпламатаў. Такая палітыка ніяк не наблiжае нас да ўступлення ў Савет Еўропы (куды прынята большасць краін былога сацыялістычнага блока і экс-савецкіх еўрапейскіх рэспублік). На асеннай сесіі Парламенцкай асамблеі СЕ выступілі запрошаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета РБ з - негатыўнай ацэнкай унутранай сітуацыі ў рэспубліцы.

Такім чынам, і тут два пункты погляду: прэзідэнт выступае за хутчэйшае ўступленне, а дэпутаты патрабуюць захавання еўрапейскіх нормаў і звяртаюць увагу заходняй грамадскасці на крызісную сітуацыю ў рэспубліцы.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑15 кастрычніка Канстытуцыйны суд РБ вырашыць лёс "Народнай газеты"— заснавальнікам яна закрытым акцыянерным таварыствам, ці стане, як і была некалі, органам Вярхоўнага Савета.

❑На сённяшні дзень у краіне існуюць дзве цяжкавырашальныя праблемы— гэта энергазабеспячэнне і экалогія. Іх больш эфектыўнаму вырашэнню прысвечана выстаўка "Энергія, экалогія, аўтаматыка-96", якая адкрылася 8 кастрычніка ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры. У ёй прымаюць удзел каля 150 фірмаў з розных краін. У рамках выстаўкі працуе Беларускі кангрэс па энергетыцы і экалогіі, праходзяць спецыялізаваныя семінары.

❑Рэспубліканская асацыяцыя бацькоў дзяцей-інвалідаў па зроку 14 лістапада збіраецца правесці дабрачынную акцыю ў падтрымку сляпых дзяцей і дзяцей з аслабленым зрокам. Мэта яе— прыцягнуць увагу грамадскасці да аказання юрыдычнай і фінансавай дапамогі.

❑З 10 па 25 кастрычніка ў Мінску пройдзе другая частка Міжнароднага свята паэзіі, якую мяркуецца правесці ў выглядзе навуковай канферэнцыі па багаслоўскай паэзіі. А ў рамках першай часткі адбыліся паэтычныя чытанні і вернісаж фотамастака У. Суцягіна.

❑У сталіцы Албаніі прайшоў конкурс сярод прыгажэйшай паловы Еўропы. Тытул "Міс Еўропа" атрымала прадстаўніца Англіі, а першай віцэ-міс стала семнаццацігадовая студэнтка мінскага педагагічнага універсітэта Алена Шчарбак.

❑Сённяшняя ў Смаргоні "Дзень сустрэч": пройдуць сесіі гарадскога і раённага Саветаў, на якіх дэпутаты сустракаюцца з кіраўніцтвам вобласці. Пасля абеду дэлегаты Усебеларускага народнага схода ад Смаргоншчыны і Астравеччыны праводзяць нараду са старшынёй аблвыканкома Аляксандрам Дубко.





## Навіны

### Чарговы "адстаўнік"

*АШМЯНЫ. Падаў у адстаўку старшыня райвыканкома Іван Раманоўскі. Просьбу ў вобласці прынялі, але кіраўнік пакуль яшчэ выконвае свае абавязкі. Пракаментаваць сітуацыю Іван Іосіфавіч адмовіўся, але паабяцаў пазней сустрэцца з карэспандэнтам "РГ".*

Сельгаспасяўны ў раёне далёка не выдатныя, але, як лічаць спецыялісты, ёсць раёны і горшыя. Таму гэта не падстава для "звальнення". Кажуць, кіраваць прапанавалі дырэктару аўтабазы Пятру Ткачову, але ён адмовіўся. Усе чамусьці чакаюць зацвярджэння на вакантную пасаду старшыні аднаго з калгасаў Гродзенскага раёна.

*Аддзел інфармацыі.*

### Ад сесіі да сесіі

*МАЛАДЗЕЧНА. З сярэдзіны кастрычніка чакаецца планавая (раз на 5 год) атэстацыя палітэхнікума.*

Студэнтаў праверацы на веданне прадметаў па іхніх будучых спецыяльнасцях. Чацвёртакурснікаў чакаюць комплексныя кантрольныя работы (мяркуецца, што кожная будзе ўключаць 4 прадметы).

Па выніках атэстацыі палітэхнікум мусіць атрымаць сертыфікат якасці, пасля чаго яму будзе нададзены статус каледжа. Калі ж студэнты на атэстацыі пакажуць дрэнныя вынікі, то праз 2-3 гады можа паўстаць пытанне і аб закрыцці некаторых спецыяльнасцей.

У любым выпадку, лічаць у тэхнікуме, рэарганізацыя гэтай навучальнай установы неабходная. Наступным у чарзе на атэстацыю стаць, дарэчы, мсцовы ўлікова-планавы тэхнікум.

*Надзея ЛІСАВА.*

### Байканур і бульба

*ВАЛОЖЫН. Мясцовую бульбу сёлета будуць есці аж на Байкануры. Але гэты факт не вельмі радуе мясцовых бульбаводаў, бо цана, па якой разлічыліся з імі за адборныя харчовыя клубні, нават не пакрывае выдаткаў на вырошчванне "другога хлеба".*

Аднак і на гэтыя паўтары тысячы рублёў за кілаграм, прапанаваныя пасрэдніцкай гандлёвай фірмай, нашы гаспадаркі вымушаны былі згадзіцца, бо знайсці рынкі збыту бульбы сёння вельмі і вельмі складана. Толькі самым спрытным кіраўнікам некаторых калгасаў удалося "прыстроіць" частку не надта багатага ўраджаю больш-менш выгадна. Астатнім жа толькі і застаецца, што ў будучым годзе зноў зменшаць і без таго сціплыя бульбяныя палеткі.

*Тацццяна ШАБЛЫКА.*

### 400 тысяч - распішыся

*ВІЛЕЙКА. Такі памер аднаразовай дапамогі адзінокім пенсіянерам, інвалідам з маленькай пенсіяй вызначылі гарадскія ўлады.*

Часцяком гэтыя людзі з-за агульнай дарагавізны не выпісваюць газеты і таму не ведаюць апошнія навіны. Камісія па аказанні матэрыяльнай дапамогі звязалася з ЖЭУ, сувязістамі, сацыяльнай службай, ветэранамі. Усе аб'ядналіся, каб абвясціць людзей, якія маюць вострую патрэбу ў сродках. У гарадскім бюджэце грошай небагата, і калі сталіца кампенсуе іх,— невядома.

Сто чалавек ужо атрымалі "незапланаваную пенсію". Распісаліся і падзякавалі.

*Аддзел інфармацыі.*

### Паўгадзіны да 590-годдзя

*ВАЛОЖЫН. Найлепшы падарунак да маючага адбыцца на наступны год святкавання 590-годдзя ўтварэння горада зрабіла творчая група "Белвідэацэнтра".*

Аўтары распрабавалі расказаць пра гістарычную спадчыну райцэнтра, яго знакамітых людзей, якія жылі раней і жывуць сёння, пазнаёміў з прадстаўнікамі розных рэлігійных канфесій. У экскурсаводы запрасілі карэнная валожынка настаўніца-пенсіянерка М. Новака.

Паўгадзінны фільм будзе ў хуткім часе паказаны па тэлебачанні. А першымі яго пагледзелі ў Доме культуры непасрэдныя ўдзельнікі здымкаў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Карпенка падорыць свой катэдж. Калі вы яго знойдзеце

*МАЛАДЗЕЧНА. Кіраўніцтва АГП арганізавала сустрэчу гараджан з намеснікам старшыні ВС Генадзем Карпенкам і былым міністрам Унутраных спраў Юрыем Захаранкам.*

Адны на сустрэчу ішлі паслухаць "свайго" (Генадзь Дзмітрыевіч восем гадоў адпрацаваў у горадзе дырэктарам завода, старшынёй выканкома). Іншых падштурхоўваў інфармацыйны голад. Такім чынам самая вялікая па колькасці месцаў зала ДК чыгуначнікаў была запоўнена яшчэ за паўгадзіны да выхаду гасцей на сцэну. Адміністрацыя некаторых прадпрыемстваў палічыла непажаданай прысутнасць на сустрэчы сваіх работнікаў. Мабыць, гэта і тлумачыць наплыў у залу пенсіянераў.

На словах Г. Карпенкі, ён прыехаў праўдзіва расказаць аб стане эканомікі і адказаць на артыкул "Народнай газеты", у якім намеснік старшыні ВС паказаны кватэрным махінатарам.

– У Беларусі няма ні эканамічнага курсу, ні праграмы нават на паперы,— сцвярджаў народны выбраннік і як доказ прыводзіў жахлівыя лічбы.

Напрыклад, летась 42 заводы спрацавалі стратна, а сёлета такіх ужо больш за 2 тысячы. 50% жыхароў рэспублікі жывуць ніжэй за сярэдні ўзровень жыцця (жабракі).

У другой частцы свайго выступлення дэпутат адзначыў, што на працягу года ў дзяржаўнай прэсе надрукаваны тры артыкулы аб махінацыях з кватэрамі, якія нібыта мелі месца ў Маладзечне і Мінску, будаванні катэджаў.

– Пасля апошняга – у "НГ"– большасць сумленных журналістаў газеты прыйшлі да мяне па прабачэнне,– сказаў Генадзь Дзмітрыевіч.– А што тычыцца катэджаў, я іх вам дару. Ідзіце, забірайце, калі ведаеце, дзе яны ёсць.

Потым былі пісьмовыя і вусныя пытанні. Амаль усе яны тычыліся бытавых праблем: набыцця і размену кватэр, устаноўкі тэлефонаў, пагашэння запасычанасцей за цеплаі электраэнергію. Людзі скардзіліся, прасілі дапамогі. А тыя, хто мог дэталёва адказаць на пытанні і дапамагчы (работнікі выканкома), пасля работы разышліся па дамах.

Карпенку папракалі за вядомы песенны фестываль у Маладзечне.

– Што благога? Горад упрыгожылі. З бюджэту грошай на правядзенне не бралі,– пачулі ў адказ.

За наўдалую спробу стварыць "горад Сонца" раіі кінуць палітыку і пайсці займацца навукай.

– Шмат людзей, асабліва сярод прадстаўнікоў улады, бачыць разумных толькі ў навуцы.

Адны жадалі Генадзю Дзмітрыевічу здароўя, плённай працы. Дзякавалі лёсу, што звязаў дэпутата з горадам. Іншыя дасылалі яму праклёны.

*Васіль САВІЦКІ.*

### Што ні яўрэй, то работнік

*ВІЛЕЙКА. Генадзь Сафонаў, магчыма, адзіны ў рэгіёне (няшмат такіх і ў краіне) узнагароджаны медалём "Праведнік Народаў Свету". Яго імя на стагоддзі занесена на Сцяну Праведнікаў у Мемарыяльным музеі катастрофы Еўрапейскага яўрэйства ў Іерусаліме.*

Пачатак. Заканчэнне на 2-й стар.

Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

**Працяг. Пачатак у №№28-34, 37, 39, 40.**

***Працягваем змяшчаць пералік персанальных спраў вязняў турмы №26 у Вілейцы, якія былі перададзены ў 1941 годзе ў турму №1 УНКВД Разанскай вобласці без вязняў. Калі камусьці вядомы лёс згаданых людзей, просім звязацца з рэдакцыяй.***

| №, прозвішча | год нар. | Калі, кім арыштаваны, паводле якога арт. крым. кодэксу. | У следстве (у чыім распараджэнні) або пакараны па якім артыкуле |
|---|---|---|---|
| 74. Рынко Ядвіга Карлаўна | 1915 | 23.09.1940 Відзаўскі райаддзел НКВД БССР | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД, арт. 72, 8 год |
| 75. Ракоўскі Браніслаў Клеафасавіч | 1887 | 17.10. 1940 следчы НКВД Вілейска вобл. | 23.03.1941 вайсковы трыбунал 3 арміі, г.Вілейка, арт. 64 КК БССР, 10 год |
| 76. Рынкевіч Іосіф Станіслававіч | 1896 | 15.12.1940 Міёрскі райаддзел НКВД БССР | 21.05.1940, арт. 72, 74 КК БССР, 8 год |
| 77. Рачынскі Канстанцін Станіслававіч | 1920 | 14.06.1941 нарсуд 1 інст. Ільянскага р-на Вілейскай вобл. | 14.06.1941 нарсуд I інст. Ільянскага р-на, арт. 33 КК БССР, 3 мес. |
| 78. Рабіза Аляксандр Антонавіч | 1908 | 17.06.1941 нарсуд I інст. г.Вілейкі | 17.06.1941 нарсуд I інст. г.Вілейкі, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 79. Рудкоўскі Віталь Іванавіч | 1886 | 1.02.1941 нарсуд I інст. Мядзельскага р-на Вілейскай вобл. | 1.02.1941 нарсуд I інст. Мядзельскага р-на, арт 94, 3 гады |
| 80. Рыдзёнак Пётр Канстанцінавіч | 1921 | 16.06.1941 нарсуд I інст. г. Вілейкі | 16.06.1941 нарсуд I інст. г. Вілейкі, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 81. Рубін Меір-Арон Срулевіч | 1892 | 29.12.1940 Крывіцкі райаддзел міліцыі - НКВД | 19.03.1941 нарсуд I інст. Крывіцкаг р-на, арт. 155 КК БССР, 6 год |
| 82. Ракіцкі Іван Атанасавіч | 1920 | 13.06.1941 нарсуд I інст. Крывіцкага р-на Вілейскай вобл. | 13.06.1941 нарсуд I інст. Кпывіцкага р-на, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 83. Сайкоўскі Мечыслаў Антонавіч | 1904 | 20.03.1941 Астравецкі аддзел НКВД БССР | 16.06.1941 аблсуд Вілейкі, арт. 64, 76 КК БССР, 10 год |
| 84. Салавей Іван Мітрафнавіч | 917 | 24.09.1940 106 аддзел пагранвойск | 13.05.1941 нарсуд I інст. г.Вілейкі, арт. 120 КК БССР, 2 гады |
| 85. Сівіцкі Часлаў Леанардавіч | 1924 | 30.10.1940 следчы УНКВД Вілейскай вобл. | 18.02.1941 аблсуд Вілейкі, арт. 64, 76 КК БССР, 5 год |
| 86. Стахоўскі Станіслаў Антонавіч | 1880 | 28.11.1940 Куранецкі райаддзел міліцыі НКВД Вілейскай вобл. | 21.12.1940 нарсуд I інст. Куранецкага р-на, арт. 155, 5 год |
| 87. Санюк Міхаіл Пятровіч | 1900 | 4.04.1940 следчы УНКВД Вілейскай вобл. | 17.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 64 КК БССР, 3 гады |
| 88. Стопа Ядвіга Часлававіч | 1924 | 20.04.1940 следчы Ашмянскага аддз. пагранвойск НКВЛ | 4.09.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120, 3 гады |
| 89. Секежыцкая Марыя Вінцэнтаўна | 1905 | 25.09.1940 85 аддзел пагранвойск НКВД БССР | 7.02.1941 вайсковы трыбунал 3 Арміі, г.Вілейка, арт. 68 КК БССР, 8 год |
| 90. Тышко Франц Адамавіч | 1925 | 4.04.1941 нарсуд I інст. Ільянскага р-на Вілейскай вобл. | 4.04.1941 нарсуд I інст. Ільянскага р-на, арт. 241, 1 год |
| 91. Трамба Аляксандр Сцяпанавіч | 1911 | 16.06.1941 нарсуд I інст. г.Вілейкі | ,16.06.1941 нарсуд I інст. Вілейкі, паст. ад 26.06.1940 |

*Працяг будзе.*

# Я— за маладога і ініцыятыўнага мэра

***СМАРГОНЬ. Саюз прадпрымальнікаў тут створаны чатыры гады таму. Сёння ў яго складзе 14 фірм, 6 прадпрымальнікаў. Разам лягчэй абараняць свае правы перад рознага роду чыноўнікамі. Суразмоўца "РГ" Юрый Ціханчук, старшыня гарадскога Саюза прадпрымальнікаў, дырэктар фірмы "Танак".***

– Калі ўвялі фіксаваны падатак на рознічны гандаль, вы арганізоўвалі дэманстрацыі пратэсту– па аналогіі з Мінскам.

– У нас яго не ўводзілі, і мітынгаў не было. Падатковая інспекцыя вызначыла суму– мільён у квартал авансавых выплат для тых, хто займаецца рознічным гандлем на рынку. На сустрэчы з інспекцыяй дасягнулі ўзаемаразумення: хто згодны– той плаціць. Каля ста чалавек з нашага боку паводзілі сябе тактоўна, стрымана. Тады ж паставілі пытанне аб пераносе рынку ў цэнтр горада, і выканком пайшоў нам насустрач.

– У горадзе дастаткова складаная сітуацыя– амаль што безуладдзе. Каго б Саюз падтрымаў у барацьбе за пасаду мэра?

– Лічу, што сёння за гэтую пасаду не змагаюцца, хутчэй адпіхваюцца ад яе. Але мы б падтрымалі адносна маладога, ініцыятыўнага, які б развіваў не толькі дзяржаўную ўласнасць,але і прыватны сектар.

*Размаўляў*
*Васіль САВІЦКІ.*

# Што ні яўрэй, то работнік

*Заканчэнне.*
*Пачатак на 1-й стар.*

Сафонаву за 80. Кадравы афіцэр, Вялікую Айчынную ён сустрэў у цягніку на станцыі Мінск. Апынуўся ў глыбокім тыле. Пад Лагойскам стварыў партызанскую групу і ўзначаліў яе. Старшы лейтэнант Сафонаў браў да сябе ў лес яўрэяў– такім чынам вyратаваў каля 50 чалавек.

Калі група ўвайшла ў склад брыгады "Народныя мсціўцы", Генадзь Мікалаевіч стаў начальнікам базы брыгады і там жа ў лесе адкрыў "гарбарны заводзік". Яўрэі шылі боты, кажухі. План ім не даводзіўся. Але працавалі старанна. А афіцэр-партызан рэгулярна выдаваў распіскі аб зробленым. Пасля вайны рабочыя "гарбарні" раз'ехаліся па свеце. Але і сёння падтрымліваюць сувязь з сям'ёй Сафонава.

Летась прыязджаў з ЗША былы зубны тэхнік Ёхельман з унучкай. У саракавыя "партызаніў" разам з жонкай. Фама Саламянскі ў Ілы трымаў лесапільны завод, млын. Пасля вайны быў дырэктарам на сваім, але ўжо дзяржаўным заводзе. Немцы расстралялі яго жонку, дзяцей, родных. Прыязджаў– цягне на радзіму. Разам наведалі Плешчаніцы– месца, дзе знаходзілася брыгада. Людзі сярэдняга ўзросту расказвалі пра "базу Сафонава", не ведаючы, што стары чалавек гэта ён і ёсць.

Генадзь Мікалаевіч памятае ўсіх. Часта ўспамінае "шпіёнку" Сільву, якая ратавалася ў лазні. І выбрала смерць ад голаду, але не ад фашысцкай кулі.

Пасля вайны афіцэра накіравалі ў Вілейку дырэктарам прадпрыемства па нарыхтоўцы збожжа. Тут ён, хлопец з Алтая, і застаўся: ажаніўся, пабудаваў дом, выхаваў трох сыноў.

І толькі цяпер узнагарода з Іерусаліма знайшла яго.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Без парадоксаў немагчыма

***АСТРАВЕЦ. Такі мы народ, што не можам пражыць без парадоксаў. У гэтым лішні раз упэўніўся днямі ў раённым цэнтры занятасці.***

На працягу месяца тут шукаюць і не могуць знайсці трактарыста ў прадпрыемства меліярацыйных сістэм. "Як так?"– міжволі ўзнікае пытанне. На ўліку ў цэнтры стаіць больш за 30 чалавек з "коркамі" трактарыстаў на руках.

Тлумачэнне вельмі простае. У ПМС маюць патрэбу ў спецыялісце для работы на трактары маркі К-701. Каб працаваць на ім, неабходна мець спецыяльную катэгорыю, а з тых людзей, што стаяць на ўліку на "біржы", ні ў каго яе не аказалася. Ды і ў мясцовым Варнянскім вучэбна-вытворчым камбінаце падрыхтоўкай такіх спецыялістаў не займаюцца.

Атрымаўся парадокс. Пры наяўнасці рабочага месца і мноства незанятых рук, вакансія застаецца свабоднай.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Страляюць і ў пасажыраў

***АШМЯНЫ. Пасля таго, як у рэстаране "Беларусь" прагучалі стрэлы, а параненая жанчына трапіла ў бальніцу, гарадскім уладам прыйшлося надаць большую ўвагу крымінальнай статыстыцы. Аналіз паказаў, што з пачатку года тут назіраецца рост правапарушэнняў, дарожна-транспартных здарэнняў у параўнанні з мінулым годам.***

Беспрацоўе, рост цэнаў, сацыяльная неабароненасць штурхаюць людзей да апошняй рысы. 18 чалавек у Ашмянах скончылі сваё жыццё самагубствам. Сур'ёзнымі праблемамі застаюцца бытавое п'янства і раззлаванасць людзей ад бязладнага жыцця, парушэнні службовай дысцыпліны. Выклікаюць трывогу недахопы ў рабоце аддзела ўнутраных спраў, некаторых сельскіх выканаўчых камітэтаў.

Ашмянцы абураныя не толькі стрэламі ў рэстаране "Беларусь", а таксама і неапраўданым скарыстаннем зброі работнікамі міліцэйскага паста, якія стралялі па аўтобусе калгаса "Ясная Паляна" (пасажыры там былі з дзецьмі). Камбайнерам калгаса "Октябрь", якія вярталіся на стан, супрацоўнікі міліцыі таксама пагражалі зброяй. Парушэнні службовай дысцыпліны дапускаліся работнікамі медвыцвярэзніка і АБЭЗа.

*Наталля РАБЧАНКА.*

# У лясах барацьба з караедамі

***АСТРАВЕЦ. З года ў год стан лясоў на Астравеччыне выклікае трывогу. То некаторыя таварышы, якія зусім не таварышы, уладкоўваюць сметнікі, то велізарныя плошчы падвяргаюцца "нападу" караедаў, матылька манашанкі.***

Востра стаіць пытанне ў гэтым плане на тэрыторыі Міхалішскага лясніцтва, дзе пасля "нападу" насякомых пашкоджаны значныя плошчы лясоў.

Мажліва, гэта і стала прычынай правядзення на базе лясніцтва раённага семінара па лесаахове. У ім прынялі актыўны ўдзел усе ляснічыя і іх памочнікі, а таксама майстры лясніцтваў і некаторыя спецыялісты лясгаса. Усім былі прадэманстраваны разнастайныя меры барацьбы са шкоднікамі.

Спецыялісты засталіся задаволеныя вынікамі вучобы, а нам застаецца спадзявацца– хутка з лясоў выганяць караедаў, яны "паздаравеюць" і стануць яшчэ больш зялянейшымі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Настаўніцкія мільёны

***ВАЛОЖЫН. Нягледзячы на цяжкае фінансавае становішча, раённыя ўлады "адшукалі" у мясцовым бюджэце 20 мільёнаў рублёў на набыццё жылога дома для настаўніцы рускай мовы і літаратуры Даўбенеўскай базавай школы Настассі Супрон. Гэта было летась.***

А сёлета атрымала ордэр на аднапакаёвую кватэру сям'я настаўнікаў-матэматыкаў Уланчыкаў з СШ №1 райцэнтра. Дзеля гэтага з бюджэту выдаткавана 25 млн. рублёў.

Жыллё застаецца праблемай №1. 35 настаўніцкіх сем'яў і настаўнікаў-адзіночак не маюць кватэр, 18 з іх жывуць у Валожыне. 7 настаўніцкіх сем'яў уступілі ў жыллёва-будаўнічы кааператыў і атрымалі льготныя крэдыты.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# Білет для гастралёра

***АШМЯНЫ. На беларуска-літоўскай мяжы парушальнікаў ловяць кожны дзень. Не варожых лазутчыкаў са зброяй, а мясцовых сялян абедзвюх дзяржаў.***

Бывае, трапляюцца і гастралёры. Затрымалі расіяніна, які цягнуў праз мяжу 30 тысяч долараў ЗША. За тыдзень 12 такіх "партызанаў" спрабавалі перайсці мяжу, абмінаючы афіцыйныя прапускныя пункты. Яшчэ 16 парушылі пагранічны рэжым– без дазволу знаходзіліся на тэрыторыі раёна. У міліцыі, куды парушальнікаў прыводзяць, высвятляюць, хто яны на самой справе, і абавязкова штрафуюць– у памеры 10 мінімалак.

Каб прыехаць у раён да сваякоў, ці ў камандзіроўку, недастаткова мець грошы і ведаць расклад руху маршрутных аўтобусаў. Калі ў пашпарце не стаіць штамп "Пагранзона", наогул могуць не прадаць білет.

*Аня СУСЛАВА.*

# Ёсць скаргі

***МАЛАДЗЕЧНА. Тры месяцы працуе тэлефонная "гарачая лінія" аддзялення аховы правоў спажыўца, якое ўзначаліў дырэктар гарадскога цэнтра стандартызацыі і метралогіі Мікалай Мартынаў. З'явіўся цікавы матэрыял для аналізу абагульненняў і высноў. Аб некаторых з іх паведаміла інспектар гарвыканкома Алена Місюкевіч:***

–Ёсць скаргі на нядобраякасны цукар, польскія цукеркі ў каробках, некаторыя іншыя тавары. Найбольшая колькасць з іх трапляе ў рукі людзей на рынку. Гэта і абутак з двухдзённым тэрмінам службы, і няспраўныя тэлевізары, і электрабытавая тэхніка.

***— Як закон аб ахове правоў спажыўца дзейнічае на справе?***

– Мы патрабуем ад прадаўцоў абмену няякасных тавараў або кампенсацыі іх кошту. Дапамаглі вярнуць грошы за электрадрыль з дэфектам павышанага іскрэння, няспраўны тэлевізар, і электрасепаратар. Усіх выпадкаў не пералічыць.

***— Вы здольныя вырашыць усе канфлікты пакупнікоў?***

– Па крайняй меры, да суда і следства справы яшчэ не даходзілі. Вырашаем усе спрэчныя пытанні за выключэннем выпадкаў, калі нельга знайсці таго, хто прадаваў тавар. На жаль, многія не захоўваюць адрыўныя талоны і чэкі, якія б дапамаглі нам высці на парушальнікаў.

***— Што можна сказаць аб умовах работы аддзялення?***

– Патрэбная свая лабараторыя экспертызы прамысловых тавараў (асабліва для складанай, радыёэлектроннай і электрабытавой тэхнікі). Без яе нам цяжка быць аб'ектыўнымі ў вызначэнні браку. Ёсць выпадкі, калі прамысловыя тавары выходзяць са строю па віне пакупнікоў. І тут без экспертызы не абысціся...

Тэлефоны не маўчаць. Шмат скаргаў па забеспячэнні гарачай вадой і цяплом. З вёсак паведамляюць аб несвоечасовым забеспячэнні магазінаў хлебабулачнымі вырабамі. За час існавання тэлефоннай лінні спецыялісты аддзялення ўпэўніліся: насельніцтву трэба даваць поўную інфармацыю аб правілах гандлю і правах пакупнікоў.

*Наталля РАБЧАНКА.*

